# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

**513.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць?

Вызначце фразеалагізмы. Якую асноўную рысу гэтага стылю яны перадаюць?

Назавіце іншыя моўныя сродкі, характэрныя для тэкстаў гэтага стылю.

У канцы жніва Міхал сказаў жонцы:

— Як ты ведаеш, маці, рашыўся я сёлета дажынкі справіць. Людзі нам памагалі, цурацца іх нельга… Ды ўрэшце яно — цалюткі год гаруеш, гаруеш, а продыху няма. Хоць разгавецца крыху…

І вось у бліжэйшую нядзелю пачалі з'язджацца сваякі.

Першы прыкаціў у размаляваных драбінах дзед Юрка з бабаю Крысяю. Затым Міхалавы старэйшыя браты з жонкамі. Потым ляснік Амброжык Дземідовіч. Апошнім прыплёўся на сваім дэрашы* Карусь Дзівак з Магдаю.

— Што ж гэта вы позніцеся? — запытаў Міхал.

— Хіба ты не ведаеш майго нязгрэбу, — адказала сястра Магда. — Часам як з прывязі сарваўшыся першым прыпрэцца, а сёння хоць аглобляй падважвай…

За сталом рэй вёў дзед Юрка:

— Дай божа гаспадару і гаспадыні шчасце, долю хлеба ўволю.

— Ешце, госцейкі, бярыце і мачайце, а на большае выбачайце, — прыгаворвала гаспадыня.

Неўзабаве ў мужчын пайшла гаворка пра цэны на збожжа, пра зямлю і леснікову службу.

**514.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Якая асноўная рыса гэтага стылю?

Нацыянальная беларуская мова — гэта мова беларускай нацыі. Ёй уласціва ўся сукупнасць моўных сродкаў, якімі карыстаецца нацыя для зносін паміж людзьмі, што яе складаюць. Да нацыянальнай мовы належаць тэрытарыяльныя гаворкі (або дыялекты) і літаратурная мова. Дыялекты ўтвараюць аснову нацыянальнай мовы, без якой яна існаваць не можа.

Дыялекты распаўсюджаны на пэўнай тэрыторыі і служаць для зносін людзей, якія жывуць на ёй, а таксама ў сферы паўсядзённых патрэб, звязаных з вытворчасцю і побытам, культурай мясцовага насельніцтва. Яны, як правіла, існуюць у вуснай форме. На розных тэрыторыях дыялекты адрозніваюцца ў галіне лексікі, фанетыкі, граматыкі.

Літаратурная мова — унармаваная мова. Яна з'яўляецца сродкам зносін людзей на ўсёй тэрыторыі нацыі ва ўсіх сферах жыцця, сродкам агульнанацыянальнай культуры. Яна існуе ў вуснай і пісьмовай формах.

Літаратурная мова ўзаемадзейнічае з дыялектамі, пастаянна адчувае іх уплыў.

### Адкажыце на пытанні

1. Што такое нацыянальная мова?
2. Што складае аснову нацыянальнай мовы?
3. Чым адрозніваюцца тэрытарыяльныя гаворкі і літаратурная мова?

**515.** Азнаёмцеся з табліцай. Што агульнае ў напісанні назоўнікаў і прыметнікаў з ***не***? Чым падобны напісанні прыметнікаў і назоўнікаў з ***не*** і напісанні ***не*** з дзеясловамі, чым яны адрозніваюцца?

| **Часціны мовы** | **Словы, якія не ўжываюцца без *не*** | | **_не_ — адмоўная часціца** |
|---|---|---|---|
| | ***не* — прыстаўка** | | |
| | ***не* з назоўнікамі, прыметнікамі, дзеясловамі** | **словы, якія з *не* ўтвараюць новыя словы** | |
| Назоўнік | *незнаёмец* | *незацікаўленасць* | *не зацікаўленасць, а абыякавасць* |
| Прыменік | *невыносны* | *немалады* | *не малады, а стары* |
| Дзеяслоў | *непакоіць* | — | *не прывыкаць* |

• Запішыце па два прыклады, калі ***не*** з назоўнікамі, прыметнікамі і дзеясловамі пішацца разам і асобна.

*лі́тасць*

**516.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту. Спішыце, раскрываючы дужкі, ставячы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце фразеалагізмы. Растлумачце правапіс часціц ***не, ні***.

...Яшчэ *(не)* забыліся людзі пра неўрадлівы пазалеташні год як зноў выдалася сухое і спякотлівае лета. Як прайшоў пасля Юр’я спорны веснавы дождж дык пасля ўсё лета *(не)* упала з неба *(ні)* кропелькі. Увечары на даляглядзе з’яўлялася нібыта смуга, ноччу ц*(?)*мяныя зарніцы раз-пораз праразалі неба, але дажджу і повідам *(не)* было відаць.

Без дажджж.. ўсё прападала ў полі і ў агародзе. Праўда, жыта парасло *(ні)* што але на ўмалот *(ні)*

хто вельмі *(не)* спадзяваўся. Ярыну зусім запякло і яна без пары пажоўкла. У той год бульбу *(не)* абганялі: кволы бульбоўнік* пусціў некалькі лісточкаў, і тыя адразу пачалі жаўцець.

У гародзе ўсё даўно ляжала аблогаю агурочнік мак цыбуля. Спачатку дзядзька з хлопцамі яшчэ палівалі грады але пасля махнулі на ўсё рукой. Ці ты наносішся столькі вады?

Ратуйце! Майце літасць! Вады, вады! Нібы крычала ўсё жывое і *(не)* жывое.

Але неба было *(ня)* умольнае і бязлітаснае. На ім па-ранейшаму *(не)* было *(ні)* хмурынкі *(С. Александровіч)*.

**517.** Прачытайце верш. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Растлумачце правапіс ***не*** са словамі.

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця
Неўтаймаваны боль планеты,
Непераможны крык жыцця!
Магчыма, вам якраз і здзейсніць
Дзядоў вялікіх запавет:
Узняцца так на крыллях песні,
Каб чуў і бачыў белы свет!
Спявайце, помнячы бязменна:
Пакуль паэты будуць жыць —
Не быць Радзіме бызыменнай[с],
Зямлі бацькоў — не анямець!

*Н. Гілевіч.*

**518.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і дапісваючы канчаткі.

1. Промнямі разыходзяцца ў Цэнтральн.. батанічн.. *(сад)* адзінаццаць *(алея)* з розных драўнін..ых *(парода)*: *(арэх)* маньчжур..кага, *(клён)* се-

рабрыстага, *(ясень)* пенсільван..кага, *(яблыня)* кітай..кай, *(бяроза)* павісл.. і *(ліпа) (дробна)* лістай. 2. Зарослая малін..ікам паляна пераліваласся *(чырвань)* на *(сонца)*. 3. Перасяляюцца штодня з *(глуш)* лясн.. у мінскія *(алея)* ліпы. 4. Уваччу заблісkалі іскаркі *(смяшлівасць)* і *(хітрасць)*. 5. Спачатку сочн.. суніцы заружавелі па *(лясы)*, за імі следам і чарніцы закрасавалі ў *(верасы)*. 6. Цячэ рака праз шум травы, праз паплавы паміж *(палі)* і *(мурагі)*. 7. Скакала па *(купіны)*, бегла па *(кладка)*, да *(шчасце)* спяшалася, пэўна.

**519.** Спішыце, дапісваючы канчаткі назоўнікаў, ставячы прапушчаныя коскі.

### Полацк

Старажытныя кнігі (летапісы) няшмат захавалі звестак пра Полацк. І ўсё ж мы ведаем пра першага полацкага князя Рагвалода і яго дачку Рагнеду. А сыны і ўнукі Рагнеды сталі пачынальнікамі многіх славутых княжацкіх родаў якія правілі пазней і ў Полацк.. і ў Ноўгарадз.. і ў Кіев.. .

Свайго найбольшага росквіт.. горад дасягнуў у XI стагоддзі пры княз.. Усяслав.. . Яго празвалі ў народз.. Чарадзеем. Гэта Усяслаў Чарадзей збудаваў у Полацк.. вялікую царкву — Сафію. Такія цэрквы існавалі толькі ў Канстанцінопал.. Кіев.. Ноўгарадз.. . А гэта азначала што Полацк ставіўся з імі побач, як роўны. Пры Усяслав.. быў збудаваны княжацкі замак — Вышні. Яго абнеслі магутнымі драўлянымі сценамі глыбокім ровам. Тут знаходзіўся церам самога княз.. сядзібы ягоных ваяроў заможных гандляроў рамеснікаў. Слава аб Полацк.. разнеслася па ўсім свец.. . Рэдка хто адважваўся ў той час пайсці на яго вайною з ім шукалі згоды і мір.. *(С. Тарасаў)*.

**520.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю і тыпу маўлення ён адносіцца? Абгрунтуйце сваю думку.

**Туня**

Туняй, ці яшчэ Тусяй, звалі яе не толькі блізкія. Для ўсіх жа яна была проста Багушэвічанка.

Расла Туня надзвычай назіральнай і кемнай дзяўчынкай, мела да ўсяго цікавасць і сэрца. Кожная былінка, кожны жучок абуджаў у яе сотні пытанняў.

І Багушэвіч не ленаваўся, адказваў на яе пытанні.

Вельмі рана Туня выявіла ў сабе здатнасць да музыкі і спеваў. Рабіла яна ўсё гэта мякка, неяк лагодна, далікатна.

З гадамі голас у Туні мацнеў, набіраў сілы. Туня аднолькава хораша спявала не толькі класічныя, але і народныя мелодыі. Голас яе гучаў аксамітна, шчыра і пяшчотна. Ён, нібы цёплыя вясновыя промні, лашчыў сэрца і душу, вёў у якісьці чароўны вольны свет. У такія хвіліны Багушэвіч пачуваў сябе найшчаслівейшым чалавекам.

Іншы раз Туня спявала песні і на бацькавы словы. Спявала гарэзна, нібы забаўлялася, і **абаім** было весела. Звычайна самотныя вочы Багушэвіча ў такія хвіліны свяціліся радасцю *(У. Содаль)*.

● Назавіце займеннікі, ужытыя ў тэксце. Якога яны разраду? Вызначце іх склон, лік, род (калі магчыма).

**521.** Прачытайце. Запішыце лікі словамі разам з назоўнікамі, якія да іх дапасуюцца. Вызначце разрад лічэбнікаў.

У 1440 годзе немец Ёган Гутэнберг вынайшаў друкарскі станок. Кнігадрукаванне хутка распаўсюдзілася ў Еўропе, і ўжо ў 1517 годзе беларускі першадрукар і асветнік Францыск Скарына выпу-

сціў у Празе першую друкаваную кнігу ўсходніх славян — «Псалтыр». Потым ім былі надрукаваны 22 кнігі, а ў пачатку 20-х гадоў у Вільні Францыск Скарына адкрыў першую на тэрыторыі ўсходніх славян друкарню.

Справу вялікага Скарыны працягвалі Пётр Мсціславец і Сымон Будны *(«Родны край»)*.

## Віктарына

1. Як вы дапасуеце назоўнікі *суткі, дзверы* да лічэбнікаў *22, 23, 24*?

2. Усе вы ведаеце байку Крылова «Квартэт». Як бы называлася байка, калі б музыкаў у ёй было трое? пяцёра? шасцёра?

3. Мы гаворым *абодва хлопчыкі, абодвух хлопчыкаў, абедзве дзяўчынкі, абедзвюх дзяўчынак*. А чаму нельга сказаць: *абодвух нажніц* ці *абедзвюх нажніц*?

4. Запішыце лічэбнікі, якія ў творным склоне маюць чатыры *ц*.

5. Ці можна так сказаць: *Апошняя палавіна ліпеня была дажджлівая*?

6. Як напісаць: *па сямі, па пятнаццаці капеек* ці *па сем, па пятнаццаць капеек*?

**522.** Прачытайце. На якія дзве часткі падзяляецца тэкст? Пра што гаворыцца ў кожнай з іх? Спішыце, раскрываючы дужкі, ставячы прапушчаныя знакі прыпынку. У складаных сказах падкрэсліце граматычныя асновы. Растлумачце правапіс складаных прыметнікаў. Да якой групы яны належаць? Якая іх роля ў тэксце?

З гасцініцы запаведніка добра праглядваюцца лясныя астраўкі сярод балот. Бліжэйшыя — цёмна*(?)*зялёныя далейшыя — блакітна*(?)*сінія. Яны зусім зліваюцца з гарызонтам. Калі на балота апус-

каецца туман з белай заслоны тырчаць в..рхавіны лясістых узгоркаў.

Бярэзінскія балоты гэта в..лізарныя плошчы жураві*(н, нн)*іку магутныя запасы прэснай вады. На б..лаватых або бледна*(?)*зялёных мохавых падушках ляжаць тонкія плеці з крывава*(?)*чырвонымі плямамі ягад. А калі выпадзе ўра*(ж, дж)*айны год усё балота **чырванее** ад іх.

• Да якой часціны мовы належыць выдзеленае слова? Абгрунтуйце сваю думку.

**523.** Прачытайце тэкст. Вызначце час дзеясловаў. Якую ролю ў апісанні вясны выконваюць дзеясловы ў форме прошлага і будучага часу? Спішыце тэкст, ставячы прапушчаныя знакі прыпынку.

Варушыць пальцамі сухімі сад мокраю карою дыхціць*. Падсыхае тужэе зямля. Пад узгоркамі ніжэй апала рэчка высокімі пасталі берагі. Плешчацца[м] па краях вада жвірынкі маленькія вылівае гладзіць прыхарошвае пясок. Смешныя далікатныя павыскоквалі зялёныя парасткі. Забыліся некалі ў рэчку сплысці — засталіся на поплаве лужынкі. Галоўкі жоўтыя зараз там парашчэпвае лопух. З вербаў паздзімае вецер каткі. Вокам сплюшчаным задрэмле рэчка, перакінуўшы ў дне кавалак неба.

Свежы густы шугае вецер.

Мкнуцца за лес валакном лё..кія хмаркі.

Сопкая пахне зямля.

Вясна *(Я. Сіпакоў)*.

У апошніх чатырох сказах назавіце словы, ужытыя ў пераносным значэнні. Скажыце, чаму менавіта гэтыя словы выкарыстаў пісьменнік. Прамы ці адваротны парадак слоў у сказах? Якую стылістычную прымету тэксту ён узмацняе?

# ПАДКАЗКІ ДА РУБРЫКІ «ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ»

**С. 15.** Гутарковы. Мастацкі. Навуковы.

**С. 55.** 1. Ёсць. Адушаўлёнымі з'яўляюцца назвы маладых істот тыпу *кацяня, ласяня, цяля*, а таксама назоўнік *дзіця*, якія адносяцца да ніякага роду. 2. Палявая кветка, якая расце ў азімых пасевах і цвіце сінімі кветкамі мае дзве назвы: *васілёк* (м. р.) і *валошка* (ж. р.). 3. Назвы *інжынер, майстар спорту* адносяцца як да асоб мужчынскага, так і да асоб жаночага полу.

**С. 62.** 1. Два прадметы. 2. Правільна. Некаторыя адзіночналікавыя рэчыўныя назоўнікі, калі яны абазначаюць віды, ці гатункі, ці сарты рэчыва могуць ужывацца ў форме множнага ліку: *вада — воды* (мінеральныя), *сок — сокі* (фруктовыя). Надпісы «Воды», «Сокі» адпавядаюць гэтаму правілу. 3. Прыналежнасць назоўнікаў да таго ці іншага роду вызначаецца марфалагічнымі прыметамі (характарам асновы і склонавымі канчаткамі), а таксама іх лексічным значэннем. У множным ліку марфалагічныя прыметы назоўнікаў не маюць родавых адрозненняў, таму для вызначэння родавай прыналежнасці назоўнікаў, якія ўжыты ў множным ліку, неабходна паставіць іх у форме адзіночнага ліку. Род множналікавых назоўнікаў не вызначаецца, таму што яны не маюць формаў адзіночнага ліку.

**С. 64.** Скланенне назоўнікаў вызначаецца па такіх марфалагічных прыметах, як род, характар асновы і склонавыя канчаткі. У множналікавых назоўнікаў не вызначаецца род, яны маюць няпоўную сістэму склонавых канчаткаў, таму іх нельга аднесці ні да аднаго з трох тыпаў скланення.

**С. 71—72.** *Дуба, клёна, ясеня — дубу, клёну, ясеню.* Калі назоўнікі *дуб, клён, ясень* і да т. п. абазначаюць канкрэтнае дрэва, у родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак ***-а (-я)***, а калі яны абазначаюць драўніну, г. зн. маюць значэнне рэчыва, то ўжываюцца з канчаткам ***-у (-ю)***. Тое ж назіраецца і ў назвах раслін: калі назоўнік называе адну расліну, то мае канчатак ***-а***, а калі сукупнасць гэтых раслін (г. зн. набывае значэнне зборнасці), то мае канчатак ***-у***: *прыгожы рамонак — цэлы палісаднік рамонку*.

**С. 78.** 1. Назоўнікі тыпу *армія, лінія* ў родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку і ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць канчатак ***-і***. 2. *У рыб няма зубоў.*

**С. 117.** Таму што прыметы, якія выражаюць адносныя і прыналежныя прыметнікі, сталыя і не могуць праяўляцца ў розных ступенях.

**С. 130.** 1. Таму што прымета прыналежнасці характэрна толькі для асоб і жывых істот. Неадушаўлёныя назоўнікі называюць прадметы, а прадметам нішто не можа належыць. 2. Дзяціныя галасы напоўнілі ўвесь дом *(Я. Колас)*.

**С. 131.** Ёсць. Туфлі колеру *бэж* (светла-карычневыя). Сукенка колеру *бардо* (цёмна-чырвоная). Штаны колеру *хакі* (шаравата-зялёныя, зелянковыя).

**С. 134.** Адносныя і прыналежныя прыметнікі паказваюць на іх адносіны да прадметаў, асоб, жывых істот. Таму яны і ўтвараюцца ад назваў адпаведных асоб, жывых істот, г. зн. з'яўляюцца вытворнымі.

**С. 155.** Пры аднясенні слова да той ці іншай часціны мовы недастаткова ўлічваць толькі яго значэнне. Неабходна мець на ўвазе і марфалагічныя, і сінтаксічныя прыметы. З улікам гэтага словы *тройка, чацвёрка* і да т. п. — назоўнікі, таму што маюць прымету роду, змяняюцца па ліках і склонах, спалучаюцца з прыметнікамі, а словы *тры, чатыры* і да т. п. прыметы роду не маюць, змяняюцца толькі па склонах, з прыметнікамі не спалучаюцца.

**С. 271.** Толькі форму адзіночнага ліку і толькі форму 3-й асобы могуць мець безасабовыя дзеясловы, напрыклад: *світае, вечарэе, падмарожвае* і да т. п.

**С. 286.** Такімі з'яўляюцца адзінкавыя дзеясловы: параўн. *хва́ліце — хвалі́це, бу́дзіце — будзі́це, пу́сціце — пусці́це*.

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Абе́чак,** -чка, *м*. Абадок.

**Адмысло́вы,** -ая, -ае. Адметны, выдатны, цудоўны.

**Аксамі́тны,** -ая, -ае. Шаўковы.

**Асаве́лы,** -ая, -ае. Які стаў расслабленым; змораны; санлівы.

**Бульбя́нік,** -у, *м*. Бацвінне бульбы.

**Буршты́навы,** -ая, -ае. Колерам падобны да бурштыну.

**Верашча́ка,** -і, *ж*. Рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі.

**Ве́тлы,** -ая, -ае. Тое, што і ветлівы — ласкавы, далікатны, прыветлівы.

**Во́лкі,** -ая, -ае (разм.). Вільготны.

**Вэ́люм,** -у, *м*. Кавалак тонкай празрыстай тканіны, прымацаванай да вянка або жаночага капелюша.

**Вяндлі́на,** -ы, *ж*. Вэнджанае прасоленае мяса, сала.

**Го́ні**, -ей. *Уст*. Ніва, зямля.

**Го́нта,** -ы, *ж.*, зб. Дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, вострa саструганых з аднаго боку і з пазам — з другога.

**Гра́фіка,** -і, *ж*. Мастацтва перадачы прадметаў контурнымі лініямі і штрыхамі, без фарбаў, а таксама творы гэтага мастацтва.

**Гру́бка,** -і, *ж*. Невялікая пакаёвая печ для абагрэву.

**Дба́нне,** -я, *н*. Старанне, руплівасць.

**Дра́нка,** -і, *ж*. Тонкая драўляная дошчачка для крыцця даху або для абівання сцен пад тынкоўку.

**Дыза́йнер,** -а, *м*. Мастак, спецыяліст па канструяванні прадметаў, машын, інтэр’ераў.

**Дыхце́ць,** -ціць. *Абл*. Павяваць, дыхаць.

**Дэ́раш,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аб масці коней: шэры з прымессю іншага колеру поўсці.

**Ёўня,** *-і, ж.* Прыбудоўка да тока, у якой сушаць снапы.

**Зажу́раны,** -ая, ае. Засмучаны, маркотны.

**Зато́ка,** *-і, ж.* Невялікі заліў у рацэ або возеры; лука, завадзь.

**Кавярзні́,** -нёў; *адз.* **кавярзе́нь,** -зня, *м. Разм.* Лыкавыя лапці з закрытымі насамі.

**Куко́ль,** -ю, *м.* Аднагадовая травяністая расліна; пустазелле, што расце сярод злакаў.

**Куцця́,** -і, ж. Урачыстая вячэра напярэдадні Каляд. 2. Каша з ячных або іншых круп як традыцыйная абрадавая яда.

**Лексіко́граф,** -а, *м.* Той, хто складае слоўнікі.

**Лібрэ́та,** нескл., *н.* Слоўны тэкст вялікага музычна-вакальнага твора (оперы, аперэты і пад.).

**Ліло́вы,** -ая, ае. Колеру бэзу ці фіялкі; фіялетавы.

**Маку́лінка,** -і, *ж.* Крупінка, драбніца.

**Ма́рыва,** -а, *н.* Слой цёплага паветра каля паверхні зямлі, які трымціць у гарачае надвор'е.

**Мі́сія,** -і, ж. 1. Адказная роля, высокае прызначэнне каго-небудзь. 2. Заданне, даручэнне.

**Му́ляр,** -а, *м.* Рабочы, які будуе што-небудзь з каменя ці цэглы.

**Назаля́ць,** -яе. Часта дакучаць каму-небудзь.

**Нязгрэ́ба,** -ы, *ж. Абл.* Няспрытны, няўмелы, нязграбны чалавек.

**Палаве́нь,** -я, *м. Абл.* Тое, што і паводка.

**Пацвялі́цца,** -цвялюся. Падражніцца, пажартаваць.

**Пласкадо́нка,** -і, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Лодка з плоскім роўным дном.

**Прыўда́тны,** -ая, -ае (разм.). Тое, што і прыўдалы — надта ўдалы, надзвычай добры; цудоўны.

**Ралля́,** -і, *ж.* Узаранае поле, узараная глеба.

**Ро́шчына,** -ы, *ж.* Негустое цеста на дрожджах, якое замешваюць.

**Самацве́т,** -а, *м.* Каштоўны або штучны камень з чыстым тонам афарбоўкі ці бясколерны, празрысты, з яркім бляскам.

**Скна́ра,** -ы, *аг. р.* Вельмі скупы чалавек.

**Слата́,** -ы, *ж.* Сырое надвор'е з дажджом і мокрым снегам.

**Смуга́,** -і, *ж.* Дымка, туман.

**Стынь,** -і, *ж.* Сцюжа, холад.

**Сяў́ня́,** -і, *ж.* Кораб з кары ліпы, вязу для ручной сяўбы.

**Тэмбр,** -а, *м.* Афарбоўка гучання інструмента ці голасу, якая дазваляе адрозніваць гукі аднолькавай вышыні пры выкананні на розных інструментах ці рознымі галасамі.

**Фенамена́льны,** -ая, -ае. Выключны, незвычайны; выдатны па сваіх якасцях.

**Філало́гія,** -і, *ж.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць духоўную культуру народа, выражаную ў мове і літаратурнай творчасці.

**Цэп,** -а, *м.* Прылада ў выглядзе доўгай палкі з прымацаваным да яе драўляным біпом для малацьбы збожжа ручным спосабам.

**Ша́ты,** -аў; *адз.* няма. 1. Пышнае дарагое адзенне. 2. *перан.* Покрыва (звычайна з лісця, снегу); прыкрыцце.

**Штыке́ты,** -аў; *адз.* **Штыкет,** -а і -у, *м.* Вузкія драўляныя планкі, з якіх робяць плот.

**Эспа́ндар,** -а, *м.* Спартыўны снарад, які звычайна складаецца з дзвюх ручак, злучаных некалькімі рызінавымі шнурамі або спружынамі, для развіцця мышцаў рук, грудзей і спіны.

**Э́тыка,** -і, *ж.* Сукупнасць нормаў паводзін, мараль.

# РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

А́лый — пунсо́вы, ярка-чырво́ны
Багря́ный — багро́вы
Безнадёжность — безнадзе́йнасць
Безукори́зненный — безэдако́рны
Благодари́ть *(кого)* — дзя́каваць *(каму)*
Бесконе́чный — бяско́нцы
Бесчи́сленный — незлічо́ны
Бесчу́вственный — бязду́шны
Велича́во — ве́лічна
Взрасти́вшая нас земля́ — зямля́, якая нас узгадава́ла
Взрыв — узры́ў, вы́бух
Вку́сный — смачны
Воздви́гнуть — узве́сці, паста́віць
Вселе́нная — Сусве́т
Гроза́ — навальні́ца
Длинноволо́сый — доўгавало́сы
Достига́ть — дасяга́ць
Жи́вопись — жы́вапіс
Жи́дкий — рэ́дкі
Запры́гать — заскакаць
Запыла́ть — запала́ць
Заставля́ть — прымуша́ць
Зда́ние — буды́нак
Издава́ть — выдава́ць
Како́в — які́
Коли́чество — ко́лькасць
Ладо́шка — дало́нька
Лицо́м к лицу́ — твар у твар
Многострада́льный — шматпаку́тны
Мно́жество — мно́ства
Могу́чий — магу́тны
Мы́сленно — у ду́мках
Не́жный — пяшчо́тны
Не́кто — хто́сьці
Несомне́нно — несумне́нна, безумо́ўна
Обраща́ться — абарача́цца
Одолева́ть — адо́льваць, апано́ўваць
Озабо́ченный — заклапо́чаны
Оста́вить — пакі́нуць
Отяжеле́ть — пацяжэ́ць
Пар — па́ра
Пове́рхностный — паве́рхневы
Подро́бнее — падрабя́зней
Полусо́тня — паўсо́тня
Полы́нь — палы́н
Помести́ться — змясці́цца
Почу́вствовать — адчу́ць
Превосходи́ть — перавыша́ць, пераўзыхо́дзіць

Прийти́ к ... — прыйсці́ да ...
Притяже́ние — прыцягне́нне
Пропита́ться — насы́ціцца
Пря́ный сла́дкий арома́т — во́стрыя сало́дкія па́хі
Пытли́вость — дапы́тлівасць
Развороти́ть — развярну́ць
Развороти́вший — які развярну́ў
Растé́рянный — разгу́блены, збянтэ́жаны
Ро́бко жа́лись — tулі́ліся ад стра́ху
Свет позна́ния снизойдёт — святло́ наву́кі пры́йдзе
С гла́зу на глаз — з во́ка на во́ка
Сдержанно́сть — стры́манасць
Сло́вно — бы́ццам, ні́бы
Случи́вшееся — здарэ́нне
Смея́ться (*над*) — смяя́цца (*з*)
Сове́т — пара́да
Спря́таться — схава́цца
Спу́тник — спадаро́жнік
Степь — стэп
Стремле́ние — імкне́нне
Существова́ть — існава́ць
Терпе́ние — цярплі́васць
Толстоство́льный — тоўставо́льны
Толщина́ — таўшчыня́
То́чность — дакла́днасць
Угрожа́ть — пагража́ць
Уде́рживать — утры́млiваць
Успе́шно — паспяхо́ва
Устро́ить — нала́дзіць
Целе́бный — гаю́чы, ле́кавы
Шу́тка — жарт
Ю́ноша — юна́к
Я́сен глаза́ми — з я́снымі вачы́ма

# Спіс выкарыстанай літаратуры


1. *Агняцвет, Э.* Выбраныя творы : у 2 т. / Э. Агняцвет. Мінск : Мастацкая літаратура, 1976.
2. *Агняцвет, Э.* Будзем сябраваць / Э. Агняцвет. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.
3. *Агняцвет, Э.* Ад зярнятка да вясёлкі / Э. Агняцвет. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
4. *Адамчык, В.* Дзень ранняй восені / В. Адамчык. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.
5. *Адамчык, В.* Чужая бацькаўшчына / В. Адамчык. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.
6. *Адамчык, В.* Год нулявы / В. Адамчык. Мінск : Мастацкая літаратура, 1983.
7. *Александровіч, А.* Галубінае крыло / А. Александровіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1976.
8. *Александровіч, А.* Творы / А. Александровіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
9. *Александровіч, С.* Тут зямля такая / С. Александровіч. Мінск, 1974.
10. *Аляхновіч, У.* Ля самага небасхілу / У. Аляхновіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1973.
11. *Аляхновіч, У.* Быць чалавекам / У. Аляхновіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
12. *Арабей, Л.* Выбранае / Л. Арабей. Мінск : Мастацкая літаратура, 1975.
13. *Арабейка, І.* Услед за сонцам / І. Арабейка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1972.
14. *Арабейка, І.* Асенні ранак / І. Арабейка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.
15. *Арочка, М.* У птушынай вёсцы / М. Арочка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1964.
16. *Арочка, М.* Колас на ржышчы / М. Арочка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.
17. *Асіпенка, А.* Непрыкаяны маладзік / А. Асіпенка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

18. *Багдановіч, М.* Збор твораў : у 2 т. / М. Багдановіч. Мінск : Выд. АН БССР, 1968.

19. *Баравікова, Р.* Рамонкавы бераг / Р. Баравікова. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.

20. *Баравікова, Р.* Слухаю сэрца / Р. Баравікова. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

21. *Баравікова, Р.* Такое кароткае лета / Р. Баравікова. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.

22. *Басуматрава, С.* Белая бярэзіна / С. Басуматрава. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.

23. *Бачыла, А.* Тры багіні / А. Бачыла. Мінск : Мастацкая літаратура, 1973.

24. *Бачыла, А.* Выбранае : у 2 т. / А. Бачыла. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

25. *Блінава, Э. Д.* Беларуская дыялекталогія / Э. Д. Блінава, Е. С. Мяцельская. Мінск : Вышэйшая школа, 1980.

26. *Броўка, П.* Збор твораў : у 4 т. / П. Броўка. Мінск : Беларусь, 1965—1966.

27. *Брыль, Я.* Збор твораў : у 2 т. / Я. Брыль. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1960.

28. *Брыль, Я.* Птушкі і гнёзды / Я. Брыль. Мінск : Мастацкая літаратура, 1964.

29. *Брыль, Я.* Жменя сонечных промняў / Я. Брыль. Мінск, 1966.

30. *Брыль, Я.* Акраец хлеба / Я. Брыль. Мінск : Мастацкая літаратура, 1977.

31. *Брыль, Я.* На сцежцы — дзеці / Я. Брыль. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

32. *Буйло, К.* Выбраныя творы : у 2 т. / К. Буйло. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.

33. *Буйло, К.* Коціцца рэха / К. Буйло. Мінск : Мастацкая літаратура, 1993.

34. *Быкаў, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Быкаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.

35. *Бядуля, З.* Шчасце не ў золаце / З. Бядуля. Мінск : Мастацкая літаратура, 2014.

36. *Бялевіч, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Бялевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1968—1969.

37. *Бяспалы, З.* Казкі / З. Бяспалы. Мінск : Юнацтва, 1986.

38. *Ваданосаў, М.* Дзе віруе Бяроза / М. Ваданосаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1956.

39. *Васілевіч, А.* Выбраныя творы : у 3 т. / А. Васілевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982—1984.

40. *Васілеўская, Г.* Юныя назаўжды / Г. Васілеўская. Мінск : Мастацкая літаратура, 1983.
41. *Вітка, В.* Казкі / В. Вітка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1973.
42. *Вітка, В.* Выбраныя творы / В. Вітка. Мінск : Беларуская думка, 2013.
43. *Вольскі, А.* За лясамі дрымучымі / А. Вольскі. Мінск : Беларусь, 1961.
44. *Вольскі, А.* Месяц за месяцам / А. Вольскі. Мінск : Народная асвета, 1969.
45. *Вольскі, В.* Кніга падарожжаў / В. Вольскі. Мінск : Беларусь, 1971.
46. *Вольскі, В.* Еду ў госці да сонца / В. Вольскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.
47. *Галавач, П.* Спалох на загонах / П. Галавач. Мінск : Мастацкая літаратура, 1996.
48. *Галубовіч, Л.* Таемнасць споведзі / Л. Галубовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1993.
49. *Галубовіч, Я.* У бары на світанку / Я. Галубовіч. Мінск : Полымя, 1995.
50. *Галубовіч, Я.* Чаму мядзведзь бярозавіка не любіць / Я. Галубовіч. Мінск : Асар, 2001.
51. *Гамолка, М.* Выбраныя творы: у 2 т. / М. Гамолка. Мінск : Юнацтва, 1982—1983.
52. *Гардзей, В.* Коцікі на вярбе / В. Гардзей. Мінск : Юнацтва, 1988.
53. *Гардзей, В.* Трыадзінства / В. Гардзей. Мінск : Мастацкая літаратура, 2010.
54. *Гартны, Ц.* Выбраныя творы / Ц. Гартны. Мінск : Беларуская навука, 2012.
55. *Гаўрылкін, Л.* Урок без перапынку / Л. Гаўрылкін. Мінск : Юнацтва, 1985.
56. *Герчык, М.* Дзе жывуць чараўнікі / М. Герчык. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.
57. *Глебка, П.* Вершы / П. Глебка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1975.
58. *Грамовіч, І.* Як вясну рабілі / І. Грамовіч. Мінск : Юнацтва, 1985.
59. *Грачанікаў, А.* Калі далёка ты / І. Грачанікаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.
60. *Давыдаў, А.* Блакітны патруль / А. Давыдаў. Мінск : Юнацтва, 1989.

61. *Далідовіч, Г.* Гаспадар-камень / Г. Далідовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.
62. *Далідовіч, Г.* Пабуджаныя / Г. Далідовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.
63. *Далідовіч, Г.* Заходнікі / Г. Далідовіч. Мінск, 1994.
64. *Дамашэвіч, У.* Выбранае / У. Дамашэвіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1977.
65. *Дзеружынскі, А.* Працалюбы / А. Дзеружынскі. Мінск : Юнацтва, 1987.
66. *Дзяргай, С.* Вершы / С. Дзяргай. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.
67. *Дубоўка, У.* Залатыя зярняты / У. Дубоўка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1975.
68. *Дуброўскі, І.* На новыя кругі / І. Дуброўскі. Мінск : Полымя, 1977.
69. *Дуброўскі, І.* Час сеяць і час жаць / І. Дуброўскі. Мінск : Полымя, 1982.
70. *Дунін-Марцінкевіч, В. І.* Творы / В. І. Дунін-Марцінкевіч. Мінск : Выд. АН БССР, 1984.
71. *Дукса, М.* Твая пара сяўбы / М. Дукса. Мінск : Мастацкая літаратура, 1985.
72. *Жук, А.* Паляванне на Апошняга Жураўля / А. Жук. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
73. *Жук, А.* Водсветы зорак / А. Жук. Мінск : Мастацкая літаратура, 1997.
74. *Жуковіч, В.* Тарасаў самакат / В. Жуковіч. Мінск : Юнацтва, 1987.
75. *Жуковіч, В.* Гуканне вясны / В. Жуковіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1993.
76. *Журба, Я.* Творы / Я. Журба. Мінск : Мастацкая літаратура, 1993.
77. *Жычка, Хв.* Абеліск / Хв. Жычка. Мінск : Юнацтва, 1973.
78. *Жычка, Хв.* Дзень будзе ясны / Хв. Жычка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
79. *Загорская, Н.* Явар / Н. Загорская. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
80. *Зазека, Я.* Сонечны алень / Я. Зазека. Мінск : Юнацтва, 1987.
81. *Звонак, А.* Прадчуванне / А. Звонак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.
82. *Зуёнак, В.* Вясёлы калаўрот / В. Зуёнак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1965.

83. *Зуёнак, В.* Будзем сілы набірацца / В. Зуёнак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.

84. *Зуёнак, В.* Хата, поўная гасцей / В. Зуёнак. Мінск : Юнацтва, 1987.

85. *Зуёнак, В.* Лета трывожных дажджоў / В. Зуёнак. Мінск : 85 Мастацкая літаратура, 1996.

86. *Ігнаценка, Р.* Бярозавы шэпт / Р. Ігнаценка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1965.

87. *Ігнаценка, Р.* Зацугляны шчупак / Р. Ігнаценка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1965.

88. *Кавалёў, П.* Выбраныя творы : у 2 т. / П. Кавалёў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1972.

89. *Каганец, К.* Творы / К. Каганец. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.

90. *Калачынскі, М.* За палямі, за лясамі / М. Калачынскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1969.

91. *Калачынскі, М.* Рэха зямлі / М. Калачынскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

92. *Каліна, К.* Крылаты конь / К. Каліна. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.

93. *Канапелька, А.* Летазлічэнне / А. Канапелька. Мінск : Мастацкая літаратура, 1999.

94. *Капусцін, А.* Быць чалавекам / А. Капусцін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.

95. *Капусцін, А.* Салёная раса / А. Капусцін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

96. *Капусцін, А.* Усяму беламу свету / А. Капусцін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1997.

97. *Караткевіч, У.* Збор твораў : у 8 т. / У. Караткевіч. Мінск, 1987—1994.

98. *Каржанеўская, Г.* На мове шчасця / Г. Каржанеўская. Мінск : Мастацкая літаратура, 1973.

99. *Каржанеўская, Г.* Званы гадоў / Г. Каржанеўская. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.

100. *Каржанеўская, Г.* Асенні мёд / Г. Каржанеўская. Мінск : Мастацкая літаратура, 1993.

101. *Карпаў, У.* Вясеннія ліўні / У. Карпаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1961.

102. *Карызна, У.* Доля Русь наша белая / У. Карызна. Мінск : Мастацкая літаратура, 2007.

103. *Каўрус, А.* Слова наша роднае / А. Каўрус. Мінск : Народная асвета, 1986.

104. *Каўрус, А.* Мова народа — мова пісьменніка / А. Каўрус. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.

105. *Кірэенка, К.* Жывыя ідуць наперад / К. Кірэенка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1964.

106. *Кірэенка, К.* Калыска вятроў / К. Кірэенка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1985.

107. *Клышка, А.* Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга / А. Клышка. Мінск : Юнацтва, 1988.

108. *Колас, Я.* Збор твораў : у 14 т. / Я. Колас. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1972—1978.

109. *Крамко, Я.* Нёманскія замалёўкі / Я. Крамко. Мінск : Ураджай, 1989.

110. *Крапіва, К.* Збор твораў : у 5 т. / К. Крапіва. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1974—1976.

111. *Краўчанка, У.* Над хвалямі Прыпяці / У. Краўчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1964.

112. *Крупенька, Я.* Бусліны човен / Я. Крупенька. Мінск : Юнацтва, 1975.

113. *Крупенька, Я.* Стрэчанне / Я. Крупенька. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.

114. *Кудравец, А.* Сачыненне на вольную тэму / А. Кудравец. Мінск : Мастацкая літаратура, 1985.

115. *Кулакоўскі, А.* Аповесці і апавяданні / А. Кулакоўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.

116. *Купала, Я.* Збор твораў : у 7 т. / Я. Купала. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1972—1976.

117. *Курскоў, А.* Таямніцы беларускага лесу / А. Курскоў. Мінск : Народная асвета, 1987.

118. *Курыла, Т.* Легенда пра песню / Т. Курыла. Мінск : Юнацтва, 1986.

119. *Левановіч, Л.* Якар надзеі / Л. Левановіч. Мінск : Мастацкая літаратура,1979.

120. *Лынькоў, М.* Выбраныя творы / М. Лынькоў. Мінск : Беларуская думка, 2013.

121. *Лупсякоў, М.* Выбраныя творы / М. Лупсякоў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1963.

122. *Лупсякоў, М.* Міхалаў дуб / М. Лупсякоў. Мінск : Юнацтва, 1974.

123. *Лужанін, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Лужанін. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1960.

124. *Мазго, У.* Пад спеў крыніц / У. Мазго. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

125. *Мазго, У.* У нябёсах вясны / У. Мазго. Мінск : Мастацкая літаратура, 2003.

126. *Мазго, У.* Цуда-вуда / У. Мазго. Мінск : Мастацкая літаратура, 2009.

127. *Марозаў, З.* Гронка зорных суквеццяў / З. Марозаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1998.

128. *Марозаў, З.* Вяртанне да цішыні / З. Марозаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 2006.

129. *Маўр, Я.* Палескія рабінзоны / Я. Маўр. Мінск : Народная асвета, 1978.

130. *Машара, М.* Выбраныя творы / М. Машара. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1958.

131. *Мележ, І.* Збор твораў : у 6 т. / І. Мележ. Мінск : Мастацкая літаратура, 1969—1971.

132. *Мележ, І.* Жыццёвыя клопаты / І. Мележ. Мінск : Мастацкая літаратура, 1975.

133. *Мележ, І.* Белыя вішні і яблыні / І. Мележ. Мінск : Мастацкая літаратура, 1976.

134. *Місько, П.* Збор твораў. Т. 1—6 / П. Місько. Мінск : Мастацкая літаратура, 1971.

135. *Мыслівец, В.* Скрыль мёду / В. Мыслівец. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.

136. *Мяжэвіч, У.* На ўсходзе сонца / У. Мяжэвіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

137. *Навуменка, І.* Хлопцы-равеснікі / І. Навуменка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1958.

138. *Навуменка, І.* Верасы на выжарынах / І. Навуменка. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1960.

139. *Навуменка, І.* Таполі юнацтва / І. Навуменка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1966.

140. *Навуменка, І.* Замець жаўталісця / І. Навуменка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1977.

141. Незабудкі : вершы / уклад. У. Карызна, Я. Хвалей. Мінск : Мастацкая літаратура, 2000.

142. Ніве і хлебу : паэзія, проза / уклад. А. Рыбак, К. Цвірка. Мінск : Мастацкая літаратура, 2000.

143. *Новікаў, І.* Выбраныя творы : у 3 т. / І. Новікаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

144. *Пазнякоў, М.* Тры чарадзеі / М. Пазнякоў. Мінск : Юнацтва, 1991.

145. *Панізнік, С.* Слова на дабрыдзень / С. Панізнік. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

146. *Панчанка, П*. Млечны шлях / П. Панчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.

147. *Панчанка, П*. Маўклівая малітва / П. Панчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.

148. *Панчанка, П*. Горкі жолуд / П. Панчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

149. *Панчанка, П*. І вера, і вернасць, і вечнасць / П. Панчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986.

150. *Папковіч, У*. На досвітку / У. Папковіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

151. *Папковіч, У*. Зерне / У. Папковіч. Мінск : Мастацкая літаратура,1982.

152. *Парахневіч, М*. Абяцанне / М. Парахневіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1976.

153. *Парахневіч, М*. Чаромхавы ранні цвет / М. Парахневіч. Мінск : Юнацтва, 1984.

154. *Пархута, Я*. Зямля бацькоў нашых / Я. Пархута. Мінск : Полымя, 1988.

155. *Паслядовіч, М*. Аповесці, апавяданні / М. Паслядовіч. Мінск, 1970.

156. *Паслядовіч, М*. З табою побач / М. Паслядовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.

157. *Пестрак, П*. Збор твораў : у 5 т. / П. Пестрак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984—1986.

158. *Пранузa, П*. Фарбы восені / П. Пранузa. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

159. *Пранузa, П*. Звініць ручаёк / П. Пранузa. Мінск : Юнацтва, 1988.

160. *Прыгодзіч, З*. Журавы на далёкай пойме / З. Прыгодзіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.

161. *Прыгодзіч, З*. Журба мая светлая / З. Прыгодзіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 2008.

162. *Прыходзька, П*. Позняя восень / П. Прыходзька. Мінск : Мастацкая літаратура, 2001.

163. *Пташнікаў, І*. Збор твораў : у 2 т. / І. Пташнікаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.

164. *Пушча, Я*. Вершы і паэмы / Я. Пушча. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1968.

165. *Пысін, А*. Збор твораў : у 2 т. / А. Пысін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.

166. *Разанаў, А*. Адраджэнне / А. Разанаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1970.

167. *Разанаў, А*. Назаўжды / А. Разанаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1970.

168. *Ракітны, М*. Сярод людзей сваіх / М. Ракітны. Мінск : Мастацкая літаратура, 1967.
169. *Радкевіч, Я*. Горкі мёд / Я. Радкевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
170. *Радкевіч, Я*. Сутокі дзён / Я. Радкевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.
171. *Рубанаў, У*. Цёплы пух адуванчыкаў / У. Рубанаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.
172. *Рунец, П*. Незвычайны наведвальнік / П. Рунец. Мінск : Юнацтва, 1985.
173. *Русак, А*. Звонкія крыніцы / А. Русак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1965.
174. *Сабаленка, Р*. Збор твораў : у 2 т. / Р. Сабаленка. Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1967—1968.
175. *Салтук, А*. Пачатак дня / А. Салтук. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.
176. *Салтук, А*. Святло зямлі / А. Салтук. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
177. *Сахута, Я*. Беларускае народнае мастацтва / Я. Сахута. Мінск : Беларусь, 1980.
178. *Сачанка, Б*. Барвы ранняй восені / Б. Сачанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1962.
179. *Сачанка, Б*. Зямля маіх продкаў / Б. Сачанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1964.
180. *Сачанка, Б*. Апошнія і першыя / Б. Сачанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 2004.
181. *Сіняўскі, І*. Вернасць / І. Сіняўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1971.
182. *Сіняўскі, І*. Заранка / І. Сіняўскі. Мінск : Юнацтва, 1971.
183. *Сіпакоў, Я*. Пяць струн / Я. Сіпакоў. Мінск : Юнацтва, 1984.
184. *Сіпакоў, Я*. Выбраныя творы : у 2 т. / Я. Сіпакоў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1995.
185. *Скрыган, Я*. Выбраныя творы / Я. Скрыган. Мінск : Беларускі кнігазбор, 2005.
186. Слова аб роднай прыродзе / склад. С. Грабчыкаў. Мінск : Народная асвета, 1989.
187. *Ставер, А*. Жураўлі ляцяць / А. Ставер. Мінск : Мастацкая літаратура, 1972.
188. *Сяргейчык, Ц*. Нататкі акцёра / Ц. Сяргейчык. Мінск : Беларусь, 1986.
189. *Танк, М*. Збор твораў : у 6 т. / М. Танк. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978—1981.

190. *Трус, П.* Выбранае / П. Трус. Мінск : Дзяржпедвыд. БССР, 1958.
191. *Тулупава, Н.* Босая цішыня / Н. Тулупава. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.
192. *Тулупава, Н.* Пра што думае кіт / Н. Тулупава. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986.
193. *Хадкевіч, Т.* Творы : у 2 т. / Т. Хадкевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
194. *Хадыка, У.* На ўзвеях дзён / У. Хадыка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986.
195. *Хаўратовіч, В.* Сонца на кельме / В. Хаўратовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1983.
196. *Хведаровіч, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Хведаровіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.
197. *Хомчанка, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Хомчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.
198. *Цвірка, К.* Сцежка дадому / К. Цвірка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.
199. *Цётка.* Выбраныя творы / Цётка. Мінск : Беларусь, 1967.
200. *Чарняўскі, М.* Чалавечнасць / М. Чарняўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1971.
201. *Чарняўскі, М.* Звініць званок / М. Чарняўскі. Мінск : Юнацтва, 1982.
202. *Чэрня, Хв.* На скрыжаванні памяці / Хв. Чэрня. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
203. *Чэрня, Хв.* Музыка дарог / Хв. Чэрня. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.
204. *Шамякін, І.* Збор твораў. Т. 1—5 / І. Шамякін. — Мінск, 1965—1966.
205. *Шамякін, І.* Атланты і карыятыды / І. Шамякін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.
206. *Шамякін, І.* Экзамен на восень / І. Шамякін. Мінск : Юнацтва, 1975.
207. *Шахавец, У.* Светлая раніца / У. Шахавец. Мінск : Юнацтва, 1988.
208. *Штыхаў, Г.* Ажываюць сівыя стагоддзі / Г. Штыхаў. Мінск : Народная асвета, 1974.
209. *Ягоўдзік, У.* Прыручэнні птушкі / У. Ягоўдзік. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.
210. *Якімовіч, А.* Збор твораў : у 3 т. / А. Якімовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978—1980.
211. *Янкоўскі, Ф.* Само слова гаворыць / Ф. Янкоўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986.

# ЗМЕСТ

## ПРЫМЕТНІК

## ЛІЧЭБНІК



## ЗАЙМЕННІК



## ДЗЕЯСЛОЎ

| (Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі) | | | |
|---|---|---|---|
| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч
**Лаўрэль** Яўген Мяфодзьевіч
**Рачэўскі** Станіслаў Рыгоравіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Вучэбны дапаможнік для 6 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае

Падпісана ў друк 25.03.2015. Фармат 60x90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 20,0. Ул.-выд. арк. 11,94. Тыраж 123 000. Заказ

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна.* Мастакі *Ю. Д. Бяспалая, Л. А. Пастушэнка*
Вокладка мастака *М. Я. Шкурпіт.* Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *М. І. Чаплаводскай*
Карэктары *К. В. Шобік, Д. Р. Лосік, Л. Г. Ганчарэнка*

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск